**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 16 (732) 17 красавіка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**м. Германавічы.**
**Міні-рынак.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Аўтамабільнай мытні ў Паставах больш не будзе

**Пра гэта праінфармавала Віцебская мытня.**

У адпаведнасці з пастановай Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь ад 2014/03/25 №11 "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у пастанову Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь ад 20 жніўня 2007г. №93», з 16 красавіка 2014 года скасоўваецца ведамасны пункт мытнага афармлення (ПМА) Віцебскай мытні «Паставы -Аўта».

Ён быў размешчаны на вул. Крупскай, 55 у Паставах. З 16 красавіка гэтага года мытнае афармленне тавараў і транспартных сродкаў, якія накіроўваюцца ў ПТА « Паставы-Аўта» будзе праводзіцца ў ПТА Віцебскай мытні «Браслаў» па адрасе г. Браслаў, вул. Дзяржынскага, 85.

*Зміцер Лупач.*

Віцебская вобласць

# З пастырскім візітам

■ Станіслаў Раманчук

**Пачатак сапраўднай вясны штогод супадае ў хрысціян з перыядам Вялікага Посту і звеставання прасвятой Дзевы Марыі.**

Вернікі як праваслаўнай, так і каталіцкай канфесій аднолькава шануюць дзень, калі архангел паведаміў ёй волю Усявышняга, што яна стане маці Сына Божага. Сёлета гэтыя ўрачыстасці супалі з першым пастырскім візітам на Віцебшчыну новага Патрыяршага Экзарха ўсёй Беларусі мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Паўла. У абласны цэнтр глава царквы прыбыў раніцай на шыкоўным белым аўтамабілі бізнес-класу і адразу ж узначаліў Богаслужэнне ў галоўным храме для праваслаўных вобласці – Свята Успенскім саборы. Высокага духоўнага госця сустрэлі ў горадзе хлебам-соллю і прыгожым букетам белых руж, на літургію прыйшлі абласныя кіраўнікі. А вось прыхаджан у велічным саборы, які ўмяшчае да 5 тысяч чалавек, чамусьці сабралася небагата. Першы ўзнакамлены візіт прызначанага на Беларусь іерарха з Расіі прадоўжыўся тры дні. Дарэчы, мітрапаліт Павел прадоўжыў традыцыю свайго папярэдніка Філарэта прыязджаць у Віцебск менавіта на Звеставанне. Ён даведаўся на сустрэчы ў аблвыканкаме з главой вобласці, што цяпер у рэгіёне дзейнічаюць ужо 194 храмы, большасць з якіх аднаўлены пасля дзесяцігоддзяў ваяўнічага атэізму. Правёў мітрапаліт службу і ў адной з найстаражытнейшых цэркваў пабудовы XII стагоддзя. Там ужо вернікам змясціцца не ўдалося і трансляцыя літургіі вялася на вуліцу праз дынамікі. Духоўны дзеяч наведаў і іншыя храмы абласнога цэнтра, Свята Духаў кляштар, а напрыканцы візіту сустрэўся з грамадскасцю ў абласной філармоніі, студэнтамі духоўнай семінарыі, а таксама з калектывам педуніверсітэта імя Машэрава

Пастаўскіраён

# Красці болей не стануць

■ Кастусь Александровіч

**У сілу розных прычын і менталітэту людзей, крымінагенная абстаноўка на захадзе і на ўсходзе Беларусі адчувальна адрозніваюцца.** Да ліку самых спакойных рэгіёнаў краіны і Віцебскай вобласці адносіцца і Пастаўскі раён. Вось ужо каторы год тут зніжаецца колькасць крымінальных злачынстваў, якіх у першым квартале сёлета было зафіксавана толькі 30 выпадкаў. Дзякуючы сістэматычнай прафілактычнай рабоце праваахоўных органаў і красці сталі менеей на Пастаўшчыне, вырас да 60 % паказчык іх раскрываемасці. Вось і днямі аператыўнікі вылічылі і затрымалі парачку раней судзімых сужыцеляў з райцэнтра. Яны, каб пажывіцца, пры адсутнасці дома гаспадара выставілі акно ў адным з пакояў і ўкралі 2 млн. рублёў з атрыманай гараджанінам пенсіі. Падчас расследвання гэтай справы аператыўнікі высветлілі, што 36-гадовы пастаўчанін незадоўга перад гэтым змог украсці мабільны тэлефон у сваёй суседкі па шматпавярхоўцы. На лаву падсудных трапіць і жыхар вёскі Стары Двор. Ён таксама свае матэрыяльныя праблемы вырашыў падправіць за кошт сваіх землякоў. Дзейнічаў вясковец прымітыўна, у адсутнасць у хаце 51-гадовага суседа разбіў акно і залез у дом. Праўда, грошай нахабнік не знайшоў і крыху раззлаваны забраў з сабой 3 кілаграмы сала, упакоўку курынага мяса і флакон адэкалону, каб апахмяліцца. Турэмны тэрмін пагражае і 21-гадовай жыхарцы вёскі Гейбавічы, якая абакрала свайго знаёмага ў Мягунах. Дарэчы, з пачатку года ў раёне было зафіксавана 20 розных крадзяжоў, з якіх пакуль толькі 8 заставаліся нераскрытымі.

Шаркоўшчынскі раён

# Звярыны інстынкт

■ Чэслаў Якубовіч

**У мінулым засталіся тыя часы, калі ў сельскай мясцовасці пераважалі добразычлівыя сардэчныя людзі, якія шчыра дапамагалі суседзям пераадольваць розныя жыццёвыя цяжкасці.**

Зараз вёскі абязлюдзелі, пакрысе вымiраюць і жыць спакайней, асабліва старым, стала ў горадзе. Вось і ў Шаркоўшчынскім раёне летняй ноччу летась разыгралася неверагодная і дзікая трагедыя. Там вясковы хлопец са сваім знаёмым, яго маці і айчымам адправіліся за ягадамі і багата набарлі дароў лесу. З гэтай нагоды кампанія вырашыла адзначыць падзею, гаспадыня прыгатавала вячэру, а сама потым адправілася спаць. За сталом выпілі потым не адну бутэльку і здарылася недарэчнасць. Раптам зламалася ножка адной з табурэтак, госць упаў і разбіў да крыві губу. На падпітку ён палічыў гэта наўмысным жартам і адкрыўды ўдарыў свайго аднагодку. Аднак хлапец не разлічыў свае сілы, бо яго мацна збіў мацнейшы фізічна вясковец. Потым бойка зноў распачыналася, а акрыўджаненага госця яшчэ выцягнулі і выкінулі на вуліцу. Старэйшы мужчына ў канфлікт дзецюкоў не ўмешваўся, не стаў іх разнімаць. Пазней "пераможца" вырашыў яшчэ пакуражыцца над сваёй збітай ушчэнт ахвярай. Ён стаў здымаць на мабільны тэлефон, як зняў штаны і па чарзе спрабаваў засунуць у анальную адтуліну канец веніка і галоўку бутэлькі. Затым "герой" заваліўся спаць, а моцна збітага сына, з пераламанымі рэбрамі, траўмай галавы знайшла раніцай яго маці за хлевам. Пацярпелага даставілі ў бальніцу, дзе ён неўзабаве памёр. За забойства з асаблівай жорсткасцю і цынізмам абласны суд пакараў 18-гадовага ліцэіста 12 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму. Гэта максімальны тэрмін для падлетка, які загубіў жыццё равесніка і практычна зламаў сваё нікчэмнае маладое жыццё.

# Аб самым надзённым

## РЭЗКАЕ АБВАСТРЭННЕ АДНОСІН КРАМЛЯ З УКРАІНАЙ БЕЛАРУСЬ ІМКНЕЦЦА ВЫКАРЫСТАЦЬ З КАРЫСЦЮ ДЛЯ СЯБЕ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Зусім невыпадкова прайшлі на беларускай тэрыторыі ў складаны для ўкраінцаў перыяд перамовы А. Лукашэнкі са сваім калегам і цёзкам, выконваючым абавязкі прэзідэнта Украіны А. Турчынавым. Іх вынікам, як паведамлялася, стала гатоўнасць беларусаў з украінцамі актыўна развіваць транспартны карыдор (пра што даўно З. Пазняк гаварыў) ад Чорнага мора да Балтыкі.**

І раней у постсавецкі час расійска-ўкраінскія адносіны, двух суседніх з намі буйных краін цёплымі і сяброўскімі не былі. Яны перыядычна значна пагаршаліся, а сёлета навогул перайшлі чырвоную рысу, свет стаў сведкам неверагоднага абвастрэння сітуацыі ў XXI стагоддзі. Палітолагі спрачаюцца, ці ўвядзе Пуцін свае танкі і "міратворчыя" ваенныя сілы ва ўсходнія вобласці Украіны, дзе, відавочна, рускія ўсяляк падаграюць сепаратысцкія настроі. Па-сутнасці, там робіцца Крамлём усё магчымае, каб сарваць правядзенне прэзідэнцкіх выбараў 25 мая ці прызнаць іх вынікі нелегітымнымі.

Назіраючы за гэтымі падзеямі, прыкра робіцца ад праяў, шчыра кажучы, расійскага неаімперыялізму. Расійскае кіраўніцтва ў нечым спрабуе паўтараць дзеянні Захада ў Косаве, хоць на ўкраінскай зямлі не было, на шчасце, этнічных чыстак і грамадзянскай вайны. І вось тут самае цікавае, як павёў сябе афіцыйны Мінск. Зусім невыпадкова прайшлі на беларускай тэрыторыі ў складаны для ўкраінцаў перыяд перамовы А. Лукашэнкі са сваім калегам і цёзкам, выконваючым абавязкі прэзідэнта Украіны А. Турчынавым. Іх вынікам, як паведамлялася, стала гатоўнасць беларусаў з украінцамі актыўна развіваць транспартны карыдор (пра што даўно З. Пазняк гаварыў) ад Чорнага мора да Балтыкі.

Гэта, сапраўды, вельмі перспектыўная ідэя, бо працягласць такіх камунікацый толькі па вадзе складае больш 2-х тысяч км. Па тэрыторыі нашай краіны Днепра-Бугскі канал дасягае 626 км і яго тэхнічныя магчымасці цяпер дазваляюць перавазіць штогод амаль 4 млн. тон розных грузаў. Пасля рэканструкцыі аб'ёмы транспарціроўкі могуць падвоіцца і ёсць магчымасць прадоўжыць водны транспартны карыдор далей па Віслє і Одэры. Беларусы ў перспектыве змогуць яшчэ і дадаткова зарабляць за кошт транзіта. Еўрасаюз і суседняя Польшча таксама зацікаўлены ў гэтым праекце, бо разгружаюцца патокі грузаў па чыгунцы і аўтаперавозкі.

Праўда, палякам трэба мадэрнізіраваць свае гідратэхнічныя збудаванні, каб Буг стаў паўсюдна прыгодны для руху судоў. Ды і ў нас ёсць магчымасць болей перавозіць грузаў па рэках Прыпяць і Днепр, пашырыць там пасажырскае судаходства, адным словам перспектывы адкрываюцца няздрэнныя.. А вось у іншай сферы, мадэрнізацыі і павелічэння патэнцыялу абароннага комплексу, падобна на тое, Беларусь вельмі зблізіцца з Украінай. Прагучаўшыя ў Баранавічах на авіярамонтным заводзе словы А. Лукашэнкі аб наладжванні выпуска ў кааперацыі з украінцамі вытворчасці верталётаў і самалётаў, сапраўды, важкія і маюць рэальную аснову.

Паблізу Оршы ўкраінскі буйны завод з Запарожжа "Матор Січ" раней набыў наш авіярамонтны завод і разам з беларусамі пачынае серыйны выпуск мадэрнізаваных ваенных транспартна-дэсантных верталётаў з сучаснымі маторамі МІ-8МСБ з пад'ёмам да 9 км у вышыню (дагэтуль было 4500 м). Мы з украінцамі можам выпускаць затым і шматмэтавыя верталёты Мі-2 і баявыя Мі-24 і Мі-35. На аналагічных авіярамонтных заводах у Баранавічах і ў Мінску ёсць магчымасць сумесна з украінскім авіяхолдынгам "Антонаў" пачаць выпускаць самалёты двайнога прызначэння (ваеннага і транспартнага) з палепшанымі характарыстыкамі Ан-2-100 і Ан-38, які можа перавозіць 27 пасажыраў альбо 2,5 тоны грузаў.

Нарэшце наша краіна разумна спрабуе выкарыстаць халодную вайну Крамля з Кіевам і ў сферы мадэрнізацыі беларускай бронетэхнікі. Не сакрэт, што адны з лепшых у свеце баявых танкаў Т-100 робяць на заводзе ў Харкаве, дзе працуе славутае канструктарскае бюро імя Малышава. Ёсць усе падставы, што і ўкраінцы зацікаўлены ў такім супрацоўніцтве з намі цяпер, калі яны вымушаны спыніць не па свае́й волі ваенна-тэхнічнае супрацоўніцтва з рускімі. Беларускае кіраўніцтва не спіць у шапку і працуе ў накірунку стварэння СП па рамонце і мадэрнізацыі радыялакацыйнай тэхнікі, сродкаў радыёэлектроннай барацьбы, сумеснай вытворчасці беспілотных лятальных апаратаў розных класаў.

З гэтай ваеннай тэхнікай разам мы можам выйсці і на сусветныя рынкі ўзбраення, нешта прадаваць і ў саму Расію. Невыпадкова ў пачатку красавіка Беларусь наведаў з працоўным візітам віцэ-прэм'ер РФ па ВПК Д. Рагозін, устрывожаны, што Расія пацерпіць страты ў гэтай сферы пасля разрыву адносін з Украінай. Як бачна, беларусы могуць і павінны выкарыстаць цяперашнюю сітуацыю з вялікай карысцю для сябе. Драматычныя падзеі ва Украіне не выклікалі асаблівай трывогі сярод суайчыннікаў, але ў беларускіх банках у пачатку вясны пачаў адзначацца павышаны попыт на замежную валюту на фоне размоў аб магчымай дэнаміналцыі рубля.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 17.04.14 | | | | Пятніца 18.04.14 | | | | Субота 19.04.14 | | | | Нядзеля 20.04.14 | | | | Пн.21.04.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +4 | +10 | +6 | +5 | +7 | +12 | +10 | +8 | +11 | +17 | +12 | +8 | +11 | +16 | +13 | +11 | +14 | +20 |
| Ціск | 755 | 756 | 755 | 752 | 750 | 750 | 749 | 749 | 751 | 754 | 754 | 752 | 751 | 752 | 751 | 749 | 748 | 749 | 747 |
| Вільготнасць | 89 | 82 | 44 | 78 | 78 | 82 | 73 | 89 | 93 | 90 | 54 | 77 | 88 | 78 | 65 | 83 | 91 | 88 | 47 |
| Вецер м/сек | 3 С-З | 1 З | 2 Ю-З | 1 Ю | 2 Ю-В | 4 Ю-В | 4 Ю-В | 2 Ю-В | 2 Ю-В | 4 В | 5 В | 4 В | 4 В | 5 В | 5 В | 3 В | 4 С-В | 4 В | 6 В |

## Дзень за днём

**Не пазней 20 лістапада 2015 года, як пацвердзіла Л. Ярмошына, у Беларусі павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары. Валютная выручка краіны зменшылася яшчэ на 0,5 мільярда долараў, прыбытак беларускіх банкаў рэзка знізіўся. А. Лукашэнка загадаў скараціць Акадэмію навук Беларусі. Беларусам могуць павысіць да 15 гадоў мінімальны стаж працы для атрымання пенсій. З пачатку года на беларускіх дарогах затрымалі ўжо больш 6660 п'яных вадзіцеляў, на іх сумленні 34 ДТЗ з траўмамі і гібеллю людзей. Істотна зноў падаражэў праезд у гарадскім і прыгарадным транспарце, на трэць – па чыгунцы. Студэнтам чатырох буйнейшых ВНУ сталіцы прыйшлося з'ехаць з інтэрнатаў з-за чэмпіянату свету па хакеі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** Чарговыя інтэнсіўныя перамовы ЗША з Расіяй па Украіне завяршыліся ў Парыжы безвынікова, амерыканцы не лічаць дзеянні рускіх у Крыме законнымі.

**Бельгія.** Служба аэранавігацыі ЕС закрыла паветраную прастору над Крымам і забараніла ўсе палёты самалётаў, уключаючы транзітныя рэйсы, рэгіён – закрытая зона для палётаў.

**Украіна.** Галоўная задача Расіі зараз, як заявіў сакратар Савета нацыянальнай бяспекі і абароны А. Парубій, сарваць прэзідэнцкія выбары, для чаго сцягнула яна 100 тысяч войск на граніцу.

**Расія.** З-за далучэння Крыма, як папярэдзіў эксміністр фінансаў РФ Аляксей Кудрын, эканоміку чакае шок на ўзроўні крызіса, які быў ў 2008 годзе і нулявы рост ВУП, падзенне даходаў.

**Аўстрыя.** Расія ўжо лічыць, як заявіў у Вене пастаянны прадстаўнік РФ пры АБСЕ А. Келін, што не прызнае вынікаў прадстаячых у маі прэзідэнцкіх выбараў ва Украіне.

**Францыя.** Пасля паражэння сацыялістаў на муніцыпальных выбараў урад краіны ўзначаліў глава МУС Мануэл Вальс, мэрам Парыжа ўпершыню стала жанчына А. Ідальго.

**Турцыя**. Туркі зноў выказалі падтрымку курсу прэм'ера Рэджэпа Эрдагана, яго партыя "Справядлівасці і развіцця" на выбарах набрала галасоў у 2 разы болей апазіцыі.

**Чылі.** Пасля моцнага землятрусу і цунамі з жаночай турмы збеглі больш 300 зняволеных, загінула 5 чалавек, у прыбярэжных раёнах прапаў свет, былі разбураны апоўзнямі дарогі.

**ЗША.** Былы дарадца Пуціна па эканоміцы А. Іларыёнаў папярэдзіў, што пасля 25 мая і Беларусь можа страціць сваю незалежнасць, не кажучы ўжо пра Усходнюю Украіну.

**Германія.** Эксперты Сусветнага банка спрагназавалі для Беларусі пагаршэнне сітуацыі ў эканоміцы, скарачэнне даходаў бюджэту за год да выбараў з-за моцнай прывязкі да РФ.

**Славакія.** Новым прэзідэнтам краіны пераканаўча стаў у 2-ім туры выбараў беспартыйны 51-гадовы прадпрымальнік, інжынер-энергетык і мільянер Андрэй Кіска.

**Тайвань.** Кампанія НТС выпусціла навінку смартфон One M8 з відэакамерай з выбарам кропкі факусіроўкі і 5-дзюймовым экранам, а таксама фірменныя кейсы з адтулінамі.

**ЗША.** У рэдакцыі газеты Los Angeles Timec з'явіліся робаты-журналісты, якія рыхтуюць падборкі навін, часопіс Forbs з дапамогай іх стаў друкаваць фінансавыя справы фірм.

**Мексіка.** У штаце Веракрус паліцыя з арміяй у ходзе спецаперацыі застрэлілі адразу 10 членаў наркакартэля "Лос Сетас", якое займалася выкраданнямі людзей, катавала іх.

**Англія.** Газета "Times" апублікавала рэпартаж з Крыма, дзе пасля эйфарыі ад далучэння да Расіі з кожным днём растуць цяжкасці жыцця ў простых людзей, паўсюдна чэргі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Баранавічы.** А. Лукашэнка зноў пацвердзіў, што для правядзення дэнамінацыі ў Беларусі ўсё гатова, аддрукаваны новыя грошы, але трэба чакаць зручны момант спаду рост цэн.

**Абчак.** З канвеера ЗАТ "Юнісан" у прыгарадзе Мінска 3 ліпеня сумесна з амерыканскай кампаніяй General Motors сыдзе першы легкавы аўтамабіль Опель беларускай зборкі.

**Петрыкаў.** Каб Беларусь не лічылі сатэлітам Расіі, А. Лукашэнка правёў у рэзідэнцыі "Лясковічы" трохгадзінныя перамовы з украінскім лідарам А. Турчынавым.

**Мінск**. Адносіны Украіны да Беларусі, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, яшчэ болей пагоршацца пасля галасавання ў ААН пад маскоўскую дудку і "прагібання" пад Крэмль.

**Бабруйск.** З пачатку года экспарт на "Белшыне" знізіўся на 36,8 %, напалову ўпалі адгрузкі прадукцыі ў Расію, дзе яе пачалі выцясняць больш танныя шыны з Кітая.

**Брэст.** Мясцовы праблемны панчошны камбінат перадаў свой дзяржпакет акцый беларуска-польскаму СТАА "Контэ Спа" з Гродна, які таксама вырабляе трыкатаж.

**Салігорск.** Да канца месяца на "Беларуськаліі" запланавалі адгрузіць на экспарт 1,85 мільёна тон калійных угнаенняў, колькі прадпрыемства прадавала ў дакрызісны перыяд.

**Астравец.** Міністэрства энергетыкі РБ не выключыла датэрміновы запуск у эксплуатацыю другога энергаблока Беларускай АЭС раней 2020 года, гэта станоўча для эканомікі краіны.

**Гомель.** Расійская ФСБ затрымала на граніцы з Украінай гамяльчаніна, актывіста Майдану Д. Рэзановіча і абвінаваціла яго ў падрыхтоўцы быццам выбуху Курскай АЭС.

**Мінск.** Авіякампанія "Белавія" адмяніла свае рэйсы летам у Сімферопаль быццам па камерцыйных прычынах, аднак паветраная прастора Крыма закрыта для авіяцыі свету.

**Чавусы.** Адразу 19 салдат атрымалі траўмы і трапілі ў бальніцы пасля ДТЗ ля райцэнтра, калі "Жыгулі" трапілі пад калёсы ваеннага КамАЗа, ён зляцеў у кювет і перавярнуўся.

**Узда.** У вёсцы Дзешчанка міліцыя выявіла і ліквідавала падпольную лабараторыю па вырабе псіхатропных рэчываў, яе арганізаваў беспрацоўны мясцовы жыхар.

**Светлагорск.** Малады 28-гадовы вадзіцель вярнуў забытыя пенсіянеркай у рэйсавым аўтобусе ў сумачцы 4 тысячы USD і злітак золата, яна сабрала іх на вяселле ўнука.

**Магілёў.** З-за падпалу сухой травы ў прыгараднай вёсцы Паддуб'е згарэлі 4 хаты і 7 гаспадарчых пабудоў, у той дзень у Беларусі загінулі 3 чалавекі-падпальшчыкі травы.

**Калінкавічы.** У бальніцу шпіталізавалі жыхара раённага цэнтра, які капаў зямлю на агародзе і неасцярожна прабіў левую нагу віламі, спецыялісты МНС выдалілі зубец вілаў.

## У Беларусі прапануецца перайсці на свабоднае цэнаўтварэнне пры продажы сельгаспрадукцыі



■ **БЕЛТА**

**Міжведамасная рабочая група па вырашэнні праблем у аграпрамысловым комплексе прапануе перайсці на свабоднае цэнаўтварэнне пры продажы сельгаспрадукцыі і прадуктаў харчавання. Пра гэта ў інтэрв'ю газеце «Савецкая Беларусь» распавяла намеснік кіраўніка спраў Прэзідэнта Надзея Каткавец, якая ўдзельнічае ў працы групы па вырашэнні праблем АПК, паведамляе БЕЛТА** .

Магчымы пераход на свабоднае цэнаўтварэнне Надзея Каткавец ацэньвае станоўча і лічыць, што кошты на сельгаспрадукцыю і прадукты харчавання ад гэтага «не змогуць вырасці празмерна».

У якасці кампенсацыі за рост коштаў для малазабяспечаных слаёў насельніцтва прадугледжваецца выплата матэрыяльнай дапамогі. «Трэба даць людзям грошы, каб яны распарадзіліся імі па сваім меркаванні: адзін купіць шмат ліўернай каўбасы, а другі - значна менш добрага мяса. Але пры гэтым павінна быць дакладна абвешчана, што гэта менавіта харчовая дапамога, якую выдае дзяржава ў якасці кампенсацыі за рост коштаў на прадукты харчавання», - адзначыла Надзея Каткавец.

«Хтосьці пытаецца: дзе ўзяць грошы на кампенсацыю часткі насельніцтва некаторага падаражэння прадуктаў, калі бюджэт на гэты год даўно зверстаны? Але ніхто і не кажа, што рост цэн будзе аднамоментным і адбудзецца ўжо ў гэтым годзе.

Першапачаткова падтрымаць сельгасвытворцаў, дапусцім, пры вытворчасці малака можна так: пакінуць розничныя цэны на ранейшым узроўні, але падняць закупачныя. У выніку адбудзецца плыўнае пераціканне часткі даходаў ад перапрацоўчых прадпрыемстваў да гаспадарак. Цяпер эканоміка малочных заводаў дазваляе гэта зрабіць. А ўжо наступным крокам у будучым годзе могуць стаць свабодныя цэны на прадукты з закладкай у бюджэт кампенсацыі», - патлумачыла яна.

## Поўны кошт за газ і электрычнасць беларусы пачнуць плаціць з 2015 года

■ **ONT.BY**

**Цалкам аплачваць паслугі па газа-і электразабеспячэнню беларусы пачнуць з 2015 года.** Пра гэта распавёў намеснік прэм'ер -міністра Беларусі Анатоль Калінін. На сённяшні дзень, заявіў Анатоль Калінін, беларусы аплачваюць прыкладна 28 % рэальнага кошту камунальных паслуг. Да 2015 года плануецца выйсці на 100- працэнтную аплату паслуг па газа-і электразабеспячэнню. Усё астатняе будзе аплачваць насельніцтвам арыенціровачна на 60%. Намеснік прэм'ер - міністра падкрэсліў, што ў Беларусі прыняты крытэрыі росту тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі. Па даручэнні Прэзідэнта было пазначана $5 плюс індэксацыя ў залежнасці ад змянення цэн. Карэнных змен, акрамя $ 5, не адбудзецца.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У пачатку вясны пагалоўе жывёлы на фермах вобласці скарацілася ў параўнанні з леташнім узроўнем на 20,2 тыс. галоў, з-за АЧС меней стала свіней на 200 тыс. (38,7 %).

**Полацк**. У аграгарадку Блізніца адкрылі мемарыяльную дошку ў гонар славутага земляка, Героя Сацпрацы Яўгена Кімстача, у мясцовай школе адкрыецца музей чалавека-легенды.

**Руба.** Вечарам у гарпасёлку амапаўцы ў цывільным затрымалі і збілі двух пенсіянераў з Віцебска па падазрэнню ў вывешванні сцягоў, старым потым далі па 3 сутак арышту.

**Лосвіда.** На мясцовым ваенным палігоне пачаліся сумесныя тактычныя вучэнні сіл спецыяльных аперацый з баявымі стрэльбамі сумесна з расійскімі дэсантнікамі з Пскова.

**Лепель.** Філіял МТЗ, мясцовы рамонта-механічны завод набыў сучасныя радыяльна-свярлільны станок і зварачны апарат, асвоіў 25 відаў новай прадукцыі для мінчан.

**Паставы.** Суд канфіскаваў у першага жыхара раённага цэнтра яго іншамарку і аштрафаваў на 32,5 мільёна рублёў за п'яную язду двойчы на працягу года, на чарзе яшчэ 3 гора-кіроўцы.

**Сураж.** Услед за калегамі з Бягомля мясцовы лясгас асвоіў выпуск паліўных гранул (пелетаў) і абнавіў свой аўтамабільны парк па вывазцы драўніны з дзялянак.

**Віцебск.** З чыгуначнага вакзала вечарам прыйшлося эвакуіраваць 200 чалавек пасля тэлефоннага званка п'янага 31-гадовага "мінёра", яму пагражае да 5 гадоў турмы.

**Наваполацк.** Фінансавая міліцыя сумесна з ДАІ арыштавалі грузавік з больш 17 тонамі бульбы, на якім яе везлі з Расіі фермеру на Брэстчыне без дакументаў саннагляду.

**Лёзна.** У раённым Доме культуры прайшлі ўрачыстасці з нагоды 30-годдзя стварэння мясцовага лясгаса з паказам відэафільма пра калектыў лесаводаў з больш 300 чалавек.

**Глыбокае.** Таленавітыя вучні краю прывезлі з заключнага тура рэспубліканскіх прадметных алімпіяд адразу 5 дыпломаў, з іх – чатыры пераможцаў першай ступені.

**Віцебск.** Суд пакараў 27-гадовага памочніка машыніста мясцовага лакаматыўнага дэпо 1,5 гадамі абмежавання волі ("хімія") за ўхіленне ад прызыву на ваенную службу.

**Браслаў.** Богінскае лясніцтва адрамантавала дарогу і пабудавала драўляны мост да месца пахавання мірных жыхароў, спаленых фашыстамі ў гады вайны вёскі Прудзінкі.

**Полацк.** Паблізу горада знайшлі 90 мінамётных мін часоў II Сусветнай вайны, смертаносны арсенал аператыўна абясшкодзілі і знішчылі ваенныя сапёры в/ч 5530.

**Віцебск.** У гарадской ратушы адкрылася выстава ўнікальных латышскіх габеленаў, вытканых з янтарных нітак пры дапамозе цэнтра біяматэрыялаў тэхнічнага універсітэта Рыгі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Прафілактычная акцыя пад назвай
# “Дом без гвалту!”

■ А.І. Гігола,
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*

Паважаныя грамадзяне! Прафілактычная акцыя пад назвай **“ДОМ БЕЗ ГВАЛТУ!”** праходзіць па ініцыятыве Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь з 15 па 30 красавіка бягучага года ў Віцебскай вобласці.

Асноўнай яе мэтай з’яўляецца ўцягванне шырокіх пластоў насельніцтва ў аказанне дапамогі і садзейнічанні дзяржаўным органам у рашэнні праблем гвалту ў сям’і.

**Задачы:**

1. Давесці інфармацыю пра магчымасці дзяржаўных органаў і грамадскіх аб’яднанняў па рашэнні праблем гвалту ў сям’і, палажэнні Закона Рэспублікі Беларусь ад 04.01.2014 года “Пра асновы дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў”.

2. Прыняць меры прафілактычнага ўздзеяння да асобаў, якія здзейснілі гвалт у сям’і.

У рамках дадзенага мерапрыемства спецыялісты міністэрстваў унутраных спраў, працы і сацыяльнай абароны, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, інфармацыі, адукацыі, аховы здароўя, культуры, а таксама розных арганізацый і грамадскіх аб’яднанняў інфармуюць грамадзян пра прававыя нормы, якія дзейнічаюць у дадзенай сферы; дапамозе, аказваемай ахвярам гвалту; рабоце тэлефонаў даверу і “гарачых ліній”.

Упершыню акцыя “Дом без гвалту” праведзена ў красавіку 2011 года і ўжо знайшла дадатны водгук ва ўсіх зацікаўленых дзяржорганах. Яе штогадовае правядзенне ўключана ў Нацыянальны план дзеянняў па забеспячэнні гендарнай роўнасці ў Рэспубліцы Беларусь на 2011 - 2015 гады, зацверджаны Саветам Міністраў.

УУС Віцебскага аблвыканкама рэгулярна праводзіць комплексныя мерапрыемствы па недапушчэнні асацыяльных паводзін грамадзян у сферы сямейна-бытавых адносін.

У мэтах папярэджання цяжкіх наступстваў сямейна-бытавых канфліктаў толькі сёлета праведзены дзве прафілактычныя акцыі, накіраваныя на прафілактыку правапарушэнняў у сферы сямейна-бытавых адносін, у адносінах асобаў, якія парушаюць правы іншых членаў сям’і ўзбуджана 94 крымінальныя справы прэвентыўнай скіраванасці. З іх 20 – за наўмыснае прычыненне лёгкіх цялесных пашкоджанняў, 26 – за катаванне і 23 – за пагрозу забойствам, 262 асобаў, якія злоўжываюць спіртнымі напоямі накіравана ў ЛПП, 68 асобаў, на глебе п’янства што ставяць сем’і ў цяжкае матэрыяльнае становішча часткова абмежаваныя ў дзеяздольнасці.

Калі Вы сталі ахвярай ці сведкай сямейнага гвалту, не чакайце трагедыі, звяртайцеся ў міліцыю, а таксама Вы можаце атрымаць **дапамогу па тэлефонах бясплатнай гарачай лініі для пацярпелых ад хатняга гвалту па ўсёй Рэспубліцы Беларусь 8-801-100-8-801 (званок ананімны, штодня з 08:00 да 20:00). Глыбоцкі РАУС – 2-26-82, 2-14-23, 2-27-02.**

# З-за выпальвання травы ў Віцебскай вобласці згарэлі чатыры пабудовы

**3 красавіка ў Докшыцкім і Лёзненскім раёнах Віцебскай вобласці з-за выпальвання сухой травы адбыліся два пажары, агнём знішчаны чатыры пабудовы.**

У 14:25 пажарнікі атрымалі паведамленне пра падпаленую хату ў вёсцы Ліпск Докшыцкага раёна. Калі выратавальнікі прыбылі на выклік, акрамя хаты гарэла яшчэ і адрына.

У той жа дзень у 16:40 паступіла паведамленне пра пажар нежылой хаты і адрыны ў вёсцы Шахі Лёзненскага раёна. Прыбылыя пажарнікі назіралі адкрытае гарэнне абодвух будынкаў, паведамляе прэс-служба МНС.

Прычынамі пажараў сталася неасцярожнае абыходжанне з агнём пры выпальванні сухой расліннасці неўсталяванай асобы.

**ННВ.**



# Цымбалы загучаць у Паставах 13-15 чэрвеня

■ Жэня Пуйша

Нягледзячы на тое, што да лета яшчэ амаль два месяцы, у раёне ўжо пачалася работа па падрыхтоўцы да галоўнай падзеі чэрвеня — Міжнароднага фестывалю народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”. Ужо вядома дата яго правядзення — з 13-га па 15-е.

На мінулым тыдні ва ўпраўленні ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама адбылося пасяджэнне з удзелам членаў аргкамітэта фестывалю і яго галоўнага рэжысёра А. В. Слядзеўскай, зацверджаны каштарыс, унесены змяненні і дапаўненні ў праграму свята.

Таксама адпраўленыя афіцыйныя запрашэнні ў шэраг краін дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў на музычны форум у Паставы. Акрамя традыцыйных Расіі, Украіны Польшчы, Літвы, Латвіі і Эстоніі, іх атрымалі Францыя, Турцыя, Малдова, Узбекістан, Азербайджан і Славакія.

# Затрыманыя кіраўнікі Слуцкага мясакамбіната

**Пра гэта ў панядзелак паведаміў тэлеканал АНТ.**

Гендырэктару прадпрыемства і яго намесніку інкрымінуецца перавышэнне службовых паўнамоцтваў, халатнасць і злоўжыванне ўладай.

Прадпрыемства правяралі Камітэт дзяржкантролю і Дэпартамент фінансавых расследаванняў КДК. Ёсць падазрэнне, што Слуцкі мясакамбінат прадаваў мяса танней за мінімальныя цэны, а калі прыцягвалі падрадчыкаў, наадварот, кошт работ завышалі. У прыватнасці, завышаўся кошт транспартных паслуг.




«За 2013 і два месяцы бягучага года чыстыя страты камбіната склалі 157 млрд рублёў», — паведаміў тэлеканалу начальнік аддзела КДК Дзяніс Галавароў.

«***Прадукцыя рэалізоўвалася па заніжаных цэнах,** — сказаў ён. — **Так, за 5 месяцаў мінулага года мясакамбінат недаатрымаў амаль $300 тысяч пры пастаўцы расійскім купцам быкоў пад выглядам кароваў, розніца ў цане якіх у сярэднім складала каля даляра за кілаграм. У той жа час сыравіну набывалі праз пасярэднікаў з нацэнкай 320%, а таксама ў абыход праведзеных конкурсаў*»,** — сказаў кантралёр.

Завесці крымінальныя справы па фактах безгаспадарчасці на Слуцкім мясакамбінаце і Слуцкім ільнокамбінаце загадаў у часе паездкі ў Слуцк Аляксандр Лукашэнка.

***СГ***

# ФК Прыазер’е (Мёры) вяртаецца ў 2 лігу Беларусі

■ Жэня Пуйша




У чэмпіянаце краіны па футболе ў другой лізе прымуць удзел 22 каманды, падзеленыя на дзве групы па 11 у кожнай. Чэмпіянат пройдзе ў два этапы: на першым клубы правядуць двухкругавы турнір, пасля чаго па чатыры лепшыя каманды выходзяць у фінальны раўнд. Пры гэтым набраныя на групавым этапе ачкі захоўваюцца, а каманды групы “А” гуляюць толькі з камандамі групы “Б”. Тры прызёры атрымліваюць права выступаць у наступным сезоне ў першай лізе. Каманды, якія занялі 5-11-е месцы на групавым этапе, згуляюць паміж сабой па два стыковых матчы па схеме А5-Б5 і вызначаць выніковыя месцы ў турнірнай табліцы з дзявятага і ніжэй.

Група **“А”**: “Жлобін”, АЛФ-2007 (Мінск), “Асіповічы”, “Віцебск-2”, “Орша”, “СКВІЧ”, “МКК-Днепр” (Рагачоў), АК Ждановічы, “Вертыкаль” (Калінкавічы), “Прыазер’е “(Мёры), “Спартак” (Шклоў).

Група **“Б”**: “Кобрын”, “Нёман” (Масты), “Баранавічы”, “Лівадзія” (Дзяржынск), “Маладзечна”-2013, “Партызан-МТЗ”, “Клецк”, “Колас-Дружба” (Баранавіцкі раён), “ЮА-Лад-Жыткавічы”, “Крумкачы” (Мінск), “Тарпеда” (Мінск).

Першы этап пройдзе з 27 красавіка па 20 верасня, другі фінішуе 16 лістапада.

# Беларускія турфірмы разглядаюць магчымасць арганізацыі ахоўнага суправаджэння турыстычных аўтобусаў падчас паездак ва Украіну

**Беларускія турыстычныя кампаніі разглядаюць магчымасць арганізацыі ахоўнага суправаджэння аўтобусаў падчас паездак на тэрыторыі Украіны.**

Як паведаміла на прэс-канферэнцыі ў Мінску 11 красавіка генеральны дырэктар туркампаніі Solvex Аксана Бічун, беларускія турысты адмаўляюцца ад аўтобусных тураў у Балгарыю, калі маршрут праходзіць па тэрыторыі Украіны, а не Польшчы.

Асаблівую трывогу дырэктар турфірмы выказала накошт развіцця сітуацыі ва Украіне пасля прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных на 25 мая. “Сезон пачынаецца ў чэрвені, таму ўсе нашы дзеянні, якія будуць звязаны з развіццём бяспекі ў краіне, могуць быць развеяны ўшчэнт. Мы сёння не ўпэўнены ў тым, што будзе ў краіне пасля выбараў”, — адзначыла яна.

На думку Бічун, калі Украіна не ажыццявіць ніякіх дзеянняў, то можа страціць беларускі рынак.

“Мы гатовы сёння заплаціць за міліцэйскае суправаджэнне, каб на мяжы нашы аўтобусы сустракалі і суправаджалі. Вы можаце гарантаваць нам бяспеку такім чынам”, — прапанавала яна прадстаўнікам украінскага пасольства ў Беларусі.

“Мы выбудавалі свае графікі, але мы не ведаем, што будзе пасля выбараў. Мы занепакоены і сёння дадаткова акрэдытуемся ў еўрапейскіх пасольствах, атрымліваем дадатковыя транзітныя візы, таму што рыхтуемся да самага горшага — што мы праз Украіну не паедзем”, — адзначыла Бічун.

Як расказала дырэктар турыстычнай фірмы “Каў-Тур” Ала Клокава, прадстаўнікі адной з гасцініц Чарнаўцоў выказалі гатоўнасць забяспечыць платныя паслугі па ахоўным суправаджэнні беларускіх турыстычных аўтобусаў, калі яны будуць ехаць цэнтралізаванай калонай. Акрамя таго, паводле слоў прадстаўніка ўкраінскага санаторна-курортнага комплексу “Трускавец” Алега Рэгі, ва Украіне працуе дзяржаўная служба аховы, якая легальна прадастаўляе паслугі па ўзброенай ахове транспарту.

***Анастасія Саланові****ч, БелаПАН.*

■ Зміцер Лупач,
*тэкст і фота.*

## Ада Райчонак:
# Наколькі хопіць маіх сіл - буду цягнуць гэту справу

**Грамадскі дзеяч з Германавічаў Ада Эльеўна Райчонак 10 красавіка адзначыла чарговы Дзень нараджэння.**

Ада Райчонак нарадзілася 10 красавіка 1937 года ў Віцебску. Падчас нямецкай акупацыі цудам уратавалася з віцебскага гета, а потым ад расстрэлу ў лепельскім канцэнтрацыйным лагеры, куды трапіла разам з маці. У 1957 годзе скончыла Полацкую педагагічную вучэльню, у 1966 годзе – Пскоўскі педагагічны інстытут. Пасля вучобы працавала настаўніцай у Шаркоўшчынскім раёне, шмат год выкладала рускую мову і літаратуру ў вёсцы Германавічы. Яна заснавала некалькі музеяў і мастацкіх галерэй.

Ада Эльеўна з'яўляецца старшынёй культурна-асветніцкага Цэнтра імя Язэпа Драздовіча, а таксама ўзначальвае Шаркоўшчынскую раённую арганізацыю Таварыства беларускай мовы. У 2010 годзе Ада Райчонак стала лаўрэаткай прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі».

***Ад імя "Вольнага Глыбокага" віншую Вас з Днём нараджэння і жадаю Вам моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у Вашых грамадскіх справах.***

Дзякуй вялікі за добрыя пажаданні, за тое, што памятаеце пра мяне.

***У вас ужо даволі паважаны ўзрост, адкуль чэрпаеце сілы для грамадскай працы?***

Я свайму сыну Міхасю дала слова, што я, пакуль буду жывая, працягну яго справу. (Міхась Райчонак памёр ад сардэчнага прыступу ў 1999 годзе. Яму было 26 гадоў – З.Л.). Тое, што ён не паспеў зрабіць, я зрабіла ўсё. Я тады яму, нябошчыку, дала слова, што я, да канца жыцця, наколькі хопіць маіх сіл, майго розуму буду цягнуць гэту справу.

***Раскажыце, як вы зацікавіліся беларускай гісторыяй?***

Мяне даўно вабіла наша даўніна. Яшчэ ў дзяцінстве, калі жыла ў Полацку, я цікавілася гісторыяй Кадэцкага корпуса, лазіла па яго сутарэннях. Я шмат чаго тады не ведала, шмат, шмат… Але да гісторыі ў мяне цяга была з дзяцінства. Калі я стала працаваць настаўніцай, я зрабіла свой першы музейчык у Слабадской школе. Ён быў невялічкі, але я яго збірала. Дырэктар, бачачы, што я гэтым цікаўлюся, зрабіў для мяне адмысловыя шафы, якія стаялі ўздоўж усяго калідора. І там ляжалі экспанаты.

Паралельна я займалася мастацкай самадзейнасцю. Калі чэсна прызнацца, я на сцэне з пятага класа была. Нават марыла стаць артысткай.

Калі мяне перавялі ў Германавічы, я зноў узялася за мастацкую самадзейнасць. Мы займалі першае месца на абласных конкурсах. "Германавіцкія вячоркі" грымелі на ўсю вобласць.

***А як вы стварылі першы музей?***

Аднойчы ў Шаркоўшчынскай школе адкрываўся музей, і нас запрасілі выступіць. Я ўзяла сваіх самых галасістых сяброваў і паехала туды. Я спыталася ў жанчыны, якая займалася музеем, колькі часу яны збіралі экспанаты. Яна адказала, што чатыры гады. Я адказала, што я такі змагу за год сабраць.

Ну, вось, ляпнула так, а раз сказала, то трэба рабіць. Стала хадзіць па людзях, па вёсках… То каня дырэктар дасць, запражом з вучнямі і паедзем, Людвінова, Зорку, Ляскова… Ездзілі шмат дзе, сабралі экспанаты. Стаялі і ляжалі яны ўсюды: на шафах, на вокнах, на сталах, на падлозе, дзе толькі можна. Не ведаю, як дырэктар гэта цярпеў.

Пасля ён вымушаны быў даць мне пакой вялікі на музей. Мы знеслі



туды экспанаты, афармілі экспазіцыю. У Шаркоўшчыне ліквідавалі нейкі музей, і нам аддалі шафы. Тыя шафы мы прыстасавалі пад экспанаты.

Потым прыехалі сябры з Мінска, дапамаглі мне, і мы зрабілі два музеі: гістарычны і музей 1406-га зенітна-артылерыйскага палка. Мы праводзілі сустрэчы з ветэранамі гэтага палка, прыязджаў нават з Сахаліна. З Каўказу, З Малдавіі, Далёкага Усходу, Крыму, Латвіі, Башкірыі…

Вельмі шмат было ў нас гасцей, і мы прымалі іх з усёй шчырасцю.

***Раскажыце, як вы, настаўніца рускай мовы, прыйшлі да беларускасці?***

Аднойчы, было ўжо позна, прыбег дырэктар школы, кажа: " Ада Эльеўна, прыехала нейкая моладзь і хоча з вамі сустрэцца." Я прыйшла ў настаўніцкую, а там: Янулі, Ганулі, Агаты, Вінцукі, Змітры… Я ніколі не чула такога, я ж настаўніца рускай мовы, і такія імёны былі для мяне ў навіну. Там быў і Вінцук Вячорка, як пасля ён мне казаў. Імя Вінцук было вельмі дзіўным для мяне.

Яны ўсе гаварылі на беларускай мове, усе да аднаго. А я настаўніца рускай мовы, заканчвала рускую школу, рускі інстытут, але ў душы, відаць, было нешта закладзена беларускае. Я адказвала ім на трасянцы, і мне было сорамна. І вось мы з імі прагаварылі да самай раніцы, і я зразумела, што я не тое раблю. І стала праводзіць усе экскурсіі на беларускай мове.

***А як вы зацікавіліся творчасцю Язэпа Драздовіча?***

Аднойчы да мяне завітаў Алесь Марачкін. Пазнаёміўся са мной і расказаў мне пра Язэпа Драздовіча. Ён мяне так уразіў ім, што гэта сустрэча стала пераломным момантам у маім жыцці і ў жыцці майго сына Міхася. Мы пачалі збіраць творы Язэпа Драздовіча. Дзе мы толькі не пабывалі! Але мы спазніліся. Знайшлі тое-сёе, праўда. Але шмат яго дываноў загінула. Іх здалі на рыззё, у іх насілі дровы, ахрап'е. Але ўсё ж мы нешта знайшлі, прынеслі ў музей.

І тут, бачачы, што ў нас вельмі шмат матэрыялу, мне вырашылі даць пакой у графскім будынку. Прыехаў першы сакратар Шаркоўшчынскага райкама партыі Мечыслаў Сідзяневскі, які сказаў, што можна ўзяць некалькі пакояў. Я падумала, што чатырох пакояў хопіць. Але справа ў тым, што пакой, прысвечаны Драздовічу, мне не дазвалялі рабіць. Казалі, а ведаеце, кім ён быў у вайну. Кажу, ведаю – настаўнічаў у Лужках, а потым хадзіў ад вёскі да вёскі. Але не дазволілі мне гэты пакой зрабіць: ні райкам партыі, ні потым райвыканкам.

Мастак з Полацка нам аформіў два пакоі, дзе мы размясцілі этнаграфічную калекцыю. Іншы мастак з Оршы намаляваў цудоўнае пано, на якім Язэп Драздовіч ляціць да зорак. Яно і цяпер у мяне ў вачах стаіць. Але прыехала нейкая чыноўніца з Мінска і сказала, што трэба гэта прыбраць. Каб я тады працавала, я б неяк выкруцілася, не дала б знішчыць такую працу. А так…

Наш музей стаў знакамітым, быў адным з лепшых у Беларусі. Мяне занеслі на Дошку працы, пра мяне напісала мясцовая раёнка. А праз дзесяць дзён я недзе засвяцілася, і мяне папрасілі напісаць заяву. Прыехала загадчыца аддзела культуры і сказала, што ці ёй трэба сыходзіць з працы, ці мне. І я напісала заяву па ўласным жаданні.

Але ў мяне з'явілася шмат сяброў, мы правялі першы драздовіцкі пленэр у 1996 годзе. Першыя два пленэры ладзіў Міхась, пачынаючы з трэцяга пленэра, мне прыйшлося іх рабіць самой. І так мы правялі дваццаць драздовіцкіх пленэраў. Яны прысвячаліся розным асобам, славутым сынам Беларусі і яе слаўнай дачцэ – Эміліі Плятэр. Пасля гэтых пленэраў праводзіліся выставы па гарадах Беларусі.

Мы правялі дзве канферэнцыі, прысвечаныя Язэпу Драздовічу.

***Якія планы на гэты год? Што цікавага адбудзецца ў Германавічах?***

У гэтым годзе будзем праводзіць канферэнцыю па Кастусю Каліноўскаму, 5 ліпеня. Запрашаю ўсіх ахвотных прыняць у ёй удзел.

***Ці плануецца ў гэтым годзе мастацкі пленэр і на якую тэму?***

Пленэр у гэтым годзе будзе прысвечаны Васілю Быкаву, 90-годдзе якога будзем адзначаць у чэрвені. Пленэр, прысвечаны Барадуліну, мы праводзілі раней. Гэта быў адзіны пленэр, прысвечаны жывому чалавеку. Я думаю, што яшчэ адзін барадулінскі пленэр мы правядзём.

***У Вас ёсць акаўнты ў розных сацыяльных сетках. Не цяжка было авалодаць кампутарам і Інтэрнэтам?***

Карыстаюся. Невялікі я майстар у гэтай справе, але самае галоўнае, што мне патрэбна, я раблю.

***Вядома, што вы трымаеце яшчэ фермерскую гаспадарку, у вас 60 гектараў зямлі. Спраўляецеся?***

Спраўляемся, але вельмі цяжка. У нашых умовах выжыць фермеру вельмі цяжка.

***Поспехаў Вам у Вашай нялёгкай працы.***

Дзякуй!

■ Лена Клімза-Колтан,
*http://luchai.by/*
Фота: Карына Радзюш

# Вернікі Лучая адзначылі Пальмовую нядзелю

Пальмовая або Вербная нядзеля святкуецца ў шостую нядзелю Вялікага посту на ўспамін трыумфальнага ўваходу Пана Езуса ў Ерузалем, за тыдзень да Яго Уваскрашэння.



У гэты дзень у касцёлах, асвячаючы галінкі вярбы або іншых раслін, як сімвалы вясны, абуджэння, адраджэння прыроды, вернікі праслаўляюць Збаўцу, як Пераможцу смерці.

Урачыстасць Нядзелі Мукі Пана ў Лучаі распачалася традыцыйна каля прыдарожнага крыжа, непадалёк ад касцёла. Там сабраліся вернікі з упрыгожанымі "пальмамі". Прагучала Евангелле пра ўваход Езуса ў Ерузалем. Пасля асвячэння "пальмаў" урачыстая працэсія на чале са святаром і міністрантамі пад спеў "Гасанна Божаму Сыну!" накіравалася ў святыню.

Лучайская парафія рыхтуецца да 250-годдзя заснавання касцёла, таму на ўваходзе ў святыню размешчаны агромністы банэр з партрэтамі фундатараў касцёла са славутага роду Агінскіх. На бакавых калонах знайшлі сваё пачэснае месца выявы святых, якія з'яўляюцца апякунамі парафіі: святога Андрэя Баболі, Святога Тадэвуша і святой Ганны.

Падчас літургіі, на якую сабраліся вернікі не толькі з Лучая, але і з навакольных вёсак, дзякуючы транспартнай дапамозе ААТ "Навасёлкі-Лучай", прагучала чытанне Мукі Пана. Скончылася ўрачыстасць традыцыйнай малітвай перад абразом Маці Божай Будслаўскай, які перэгрынуе ў Лучаі – "Маці Божая Будслаўская! Штогод мы накіроўваемся да Цябе! А зараз Ты прыйшла да нас!"

Разам з пажаданнямі шчаслівага тыдня ксёндз пробашч Мікалай Ліпскі запрасіў усіх прысутных не толькі на ўрачыстасці Пасхальнага Трыдуума, але і на асаблівую Імшу 27 красавіка, у гонар кананізацыі Папы Яна Паўла II і Папы Яна XXIII. Пасля літургіі запланаваны канцэрт знакамітага беларускага выканаўцы.



